Год II Пятніца, 13 студня 1922 г. № 8 (17)

# РАНІЦА

штодзенная, грамадзкая, палітычная і літэратурная газэта

АДРЭС РЭДАКЦЫІ і КАНТОРЫ: Вільня, Вострабрамская № 4, „Hotel Szlachecki" пак. № 2. Рэдакцыя адчыняна што дня, апрача сьвят, ад 11 да 1 і ад 5 да 7 гадз.

Цана нумару 20 марак. Падпіска на 1 мес. . . 400 марак. З перасылкай 1 „ . . 500 „ За граніцай ў два разы даражэй.

ЦАНА АБВЕСТАК: За адзін радок звычайнага друку на 1 стр.—60 м. Ў тэксьце . . . . 75 м. за тэкстам . . . . 40 м. Для шукаючых працы на 10 прац. таней.

*Рэдакцыя газэты просіць п. падпісчыкаў высылаць у пару грошы за газэту. Калі грошы ня будуць адтрымывацца, то высылка газэты будзе затрымана.*

Кнтора газэты „Раніца" паведамляе, што магазынам выпісываючым газэту дзеля прадажы, кантора будзе рабіць 30 проц. уступкі.

## ТРЭБУЮЦЦА

хлопцы для прадажы газэты на ДОБРЫХ ВАРУНКАХ. Спытацца ў канторы газэты „Раніца".

*Вільня, 13 Студня 1922 г.*

Лейд-Джордж, як ужо вядома з тэлеграм, унёс прапазыцыю аб скліканьні канфэрэнцыі, на якой апроч Антанты, былі бы прысутнымі прадстаўнікі Саўдэпіі і Германіі. Мэта канфэрэнцыі—знайсьці сродкі, каб вастанавіць міжнародны гандаль.

Аснаўныя пастуляты Лейд-Джорджа гэтакія: 1) раней прадастаўленьня якому нібудзь гаспадарству капітала, павінна забязпечыць прыватную ўласнасьць: 2) выплата даўгоў; 3) гарантыі чужаземцам, што ім будзе дана магчымасьць скарыстаць прыбытак ад свайго капітала укладзенага ў дзела; 4) забязпечэньне грамадзянскіх даўгоў; 5) выпаўненьне абавязкаў, прынятых упрошласьці; 6) абяцаньне не вясьці палітычнай прапаганды і нерабіць нападаў на сваіх суседзяў і 7) забязпечэньне фінансавых варункаў, каб яны былі гарантыяй для гандалю.

Што-ж дасьць Антанта тым гаспадарствам, якія выпаўняць усе вышэй прыведзеные варункі?

Перш усяго, дакляруецца крэдыт. Пры цяперашнім эканамічным крызісе, амаль ня ўсе гаспадарствы вельмі нуждаюцца ў шырокім крэдыце без якога ня можа быць жаднай гутаркі аб паляпшэньні эканамічнага жыцьця народаў.

Другое—урэгулеваньне валюты. Падзеньне курса, спекуляцыя валютамі—страшэннае зло, ад якога гаспадарства нясуць вялікія страты, урэгулеваньне валют адразу адзавецца на цане тавараў і аблягчыць міжнародны гандаль.

Трэцьце— аблягчэньне закупу сырога матэрыялу там, где ёсьць лішка, а дзеля гэтага налада транспарту.

Дзеля правядзеньня ўсягэ гэтага ў жыцьце, эканамічныя прадстаўнікі Францыі, Англіі, Італіі і Бельгіі, прапануюць арганізаваць прыватнае міжнароднае таварыства, якое распачне сваю працу эканамічнай адбудовы ўсяго сьвета с капіталам ня меней 20 міл. фунтаў стэрлінгаў.

Апошнія тэлеграмы павядамляюць, што 8 студня на паседжаньні канфэрэнцыі ў Каннах абгаварывалася Антантай, аб пашырэньні англа-француская умовы аб гарантыях і на Польшчу. Пакуль што Англія згадзілася аб гарантыях только для Францыі.

Але трэба спадзявацца, што ў недалёкай будучыне гарантыі будуць прадастаўлены і для Польшчы, і тады эканамічнае яе жыцьцё будзе больш-меньш забязпечана.

Цяпер з нагляднай яснасьцю зьяўляецца ўсё велізарнае значэньне пытаньня, аб хутчэйшым далучэньні Срадковай Літвы да Польшчы.

Усякаму вядома, які вялікі ўрдн нанясла ўсясьветная вайна, нямецкая акупацыя і бальшавіцкая налада ня толькі Польшчы, але і Віленшчыне.

Адбудова эканамічнага жыцьця Віленшчыны патрэбуе вялікіх сродкаў, якіх на мейсцы ніколі ня знайсьці, іншая справа калі Сярэдняя Літва будзе далучана да Польшчы, дык, разумеецца, яна адтрымае мажэбнасьць адбудаваць сваю сельскую гаспадарку, пашырыць гандаль, зрабіць за граніцай закупы патрэбнага матэрыалу, машын і ўселякага тавару.

Адкрываецца вельмі шырокі гарызонт будучага жыцьця, і была бы вялікай і непапраўімай абмылкай, каб мы не скарысталі гэтага мамэнту.

## ТЭЛЕГРАМЫ.

РЫГА 12.1. (А. В.) Чычэрын прыслаў літоўскаму Ураду вострую ноту з пратэстам проці націску Літвы і Фінляндыі над Карэліяй, якая мусіла звараціцца аб помачы да Лігі Народаў. Чычэрын паясняе, што паміж гэтымі гаспадарствамі робіцца такая нязгода, па прычыне разладу ў пастановах савецка-літоўскага трактату.

ПАРЫЖ. 12.1. (А. В.) Ліст краеў, які запрашае на канфэрэнцыю да Гэнуі, тычыцца і абыймае ўсе Эўрапейскія гаспадарствы. Былі прадстаўнікі—ангельскія, ад Ірландыі, Амэрыкі і інш.

МАСКВА 12.1. (А. В.) Dresdener i Deutsche Bank вайшлі ў фінансавыя адносіны з банкам савецкага гаспадарства. 6 студня ў Маскве выстаўлен першы чэк на 7 гадоў у банк нямецкі.

ДУБЛІН. 12.1. (А В.) Прэзыдэнтам Ірляндыі выбран Грiффіт Узбудован тымчасовы Урад, Сойм адложан.

ПАРЫЖ 12.1. (А. В.) Навышэйшая Рада атрымала тэлеграму Чычэрына, где ён высказываецца проці скліканьня канфэрэнцыі ў Жэневе і прапануе сабраць яе ў Лёндыне. Найвышэйшая Рада пастанавіла ня дыскутаваць па гэтаму поваду, бо ўважае гэтую справу не актуальнай.

## Навокола Віленскага Сойму.

З Варшавы паведамляюць, што левая частка Віленскага Сойму прапануе ў першы чарод пачаць перэмову з Ковенскім Соймам.

Адначасна Віленскі Сойм зьвярнецца з нотай да Лігі Народаў. Пасьля гэтага будзе вырашана пытаньне аб далучэньні Срадковай Літвы да Польшчы.

Калі Сойм выкажацца за далучэньне Віленшчыны да Польшчы, дык для Віленшчыны будзе прадстаўлена шырокая аўтаномія з уласным Соймам, які будзе вырашаць свае мейсцовыя патрэбы.

## Навіны у тры радкі.

З Коўны паведамляюць, што сярод палякоў, якія сядзяць у Ковенскай турме, пануе эпідэмія плямістага тыфусу.

—

Ковенскі Літоўскі Урад з'вярнуўся да Лігі Народаў з пратэстам на конта выбараў у Віленскі Сойм. У ноце урад востра выступае проці Польшчы.

—

У Менску страшэнная дарагоўля. У апошні час цана на хлеб павысілася на 75 пр., цана на жыр на 200 пр,

—

Пад горадам Якуцкам у Сыбіры, савецкія вайска пацярпелі паражэньня. Белагвардзейцы занялі г. Мікалаеўск і пануюць над Амурам.

—

З Карэліі даносяць, што весткі аб ліквідацыі карэльскага паўстаньня не праўдзівыя.

Наадварот, у апошні час карэльцам удалося на тылах у балшавікоў зьнішчыць мурманскую жалезную дарогу. У паўночнай частцэ Карэліі паўстанцы так сама маюць перавагу.

—

У Маскве абвешчаны дэкрэт аб 2 гадах службы ў войску.

## ХРОНІКА.

### Саабшчэньне з Менскам.

З 15 лютага-як перадаюц—будзе ўстаноўлена безперасядачнае железнадарожнае саабшчэньне з Менскам. Уцякачы з Віленшчыны будуць направляцца праз Менск.

### Равізыі.

10 студняваўсіх менавых кантерах рабіліся равізыі.

### Барацьба з ўрэднай гарэлкай.

Выпадкі атруты таннай гарэлкай паўтараюцца.

З водачных заводаў ўзята проба дзеля аналізу.

### Железнадарожная катастрофа.

6 студня ў 17 гадзін на станцыі Лынтупы цягнік N 3186 па недагляду машыніста, ня гледзячы на закрыты сэмафор, наехаў на канец асабовага вузка-калейнага цягніка N 33.

Пры гэтым 3 пасажыра забіты, 3 цяжка ранены.

